# Голас Радзімы

№ 3 (1989)
15 студзеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Станькаўская дзіцячая музычная школа, што ў Дзяржынскім раёне, — адна з 73-х у рэспубліцы, размешчаных непасрэдна ў калгасах. Стварэнне уласных цэнтраў эстэтычнага выхавання вясковай дзятвы за кошт даходаў калектыўных гаспадарак стала характэрнай рысай сучаснага жыцця ў правінцыі. У такіх спецыялізаваных навучальных установах, дзе працуюць кваліфікаваныя педагогі з адпаведнай адукацыяй, дзеці сельскіх працаўнікоў робяць першыя крокі ў вялікі і чароўны свет прыгожага, а некаторыя з іх нават пачынаюць адсюль свой далейшы шлях у мастацтва.

НА ЗДЫМКУ: Алег ПЯТКУН, выкладчык па класу акардэона, праводзіць заняткі з вучнямі Дзянісам КАРЛАВЫМ і Надзеяй РАЗАНАВАЙ.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# ГЕНЕРАЛЬНАМУ САКРАТАРУ ААН Х. ПЕРЭСУ дэ КУЭЛЬЯРУ

Завяршыўся 1986 год, аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнародным годам міру. У сувязі з гэтым Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў звярнуўся з пасланнем да Генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра, а праз яго і да ўсёй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з інфармацыяй аб тым, што было канкрэтна зроблена Савецкім Саюзам, каб мінулы год апраўдаў надзеі, якія ўскладаліся на яго.

Савецкі кіраўнік падкрэсліў, што ў самы першы месяц Міжнароднага года міру, 15 студзеня, Савецкі Саюз выступіў з ініцыятывай небывалай па сваіх маштабах і мэтах, абвясціўшы праграму стварэння бяз'ядзернага свету і ліквідацыі ўсіх відаў зброі масавага знішчэння, уключаючы хімічную зброю, да канца цяперашняга стагоддзя. На працягу ўсяго года наша краіна канкрэтызавала гэту праграму па асобных напрамках, падмацоўвала яе практычнымі справамі.

Калі СССР уступіў у Год міру, то на яго ядзерных палігонах ужо пяць месяцаў панавала цішыня. Увесь год прадаўжаўся мараторый на ядзерныя выбухі, нягледзячы на тое, што іншыя працягвалі ўдасканальваць і без таго ўсёразбураючую зброю смерці. Прадаўжэнне Савецкім Саюзам мараторыя і пасля 1 студзеня 1987 г. — да першага амерыканскага выбуху — дае яшчэ адзін шанц паставіць эфектыўны бар'ер на шляху гонкі ядзерных узбраенняў.

Гаворачы аб сваёй сустрэчы з прэзідэнтам ЗША ў Рэйк'явіку, М. С. Гарбачоў адзначыў, што хоць яна і не прывяла да практычных вынікаў, але вывела справу ядзернага раззбраення на небывала высокі рубеж, з якога адкрыліся новыя гарызонты. І чалавецтва глядзіць у адкрытую перспектыву ў надзеі, што настойлівыя намаганні з мэтай радыкальнага скарачэння і поўнай ліквідацыі ядзернай зброі дадуць у канчатковым выніку пазітыўныя вынікі. Са свайго боку Савецкі Саюз неаднаразова пацвярджаў і пацвярджае зноў сваё імкненне ісці па гэтым шляху.

На жаль, партнёры па перагаворах не праяўляюць гатоўнасці да знаходжання дагаворанасцей, эфектыўна стрымліваючых гонку ўзбраенняў. Больш таго, яны размываюць і падрываюць ужо існуючыя пагадненні, якія абмяжоўваюць ядзерныя арсеналы, у тым ліку Дагавор АСУ-2, спрабуюць падарваць стратэгічную стабільнасць, нарошчваюць ядзерныя ўзбраенні звыш узгодненых раней межаў, вядуць справу да вываду зброі ў космас.

У мінулым годзе СССР і яго саюзнікі па Варшаўскаму Дагавору ўнеслі прапанову аб комплексным і глыбокім скарачэнні ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў у Еўропе. Аднак згоды краін НАТО на канкрэтнае абмеркаванне гэтых прапаноў так і не атрымана.

Савецкім Саюзам унесены рад буйнамаштабных ініцыятыў ці падтрымана прапановы з мэтай забеспячэння бяспекі ў раёне Азіі і басейна Ціхага акіяна, за спыненне бяссэнсавай ірана-іракскай вайны, за неадкладнае ўрэгуляванне абстаноўкі вакол Афганістана, аб хутчэйшым ажыццяўленні Дэкларацыі ААН па ператварэнні Індыйскага акіяна ў зону міру і многія іншыя.

Наша краіна, гаворыцца ў пасланні, поўнасцю падтрымлівае намаганні ААН, накіраваныя на мірнае выкарыстанне ядзернай энергіі і касмічнай прасторы, на ахову навакольнага асяроддзя. СССР цвёрда выступае за тое, каб чалавеку былі забяспечаны яго правы на жыццё і работу, супраць расавай дыскрымінацыі і міжнароднага тэрарызму.

Адзначаючы важкі ўклад у вырашэнне гэтых і іншых пытанняў ААН і асабіста ўклад Х. Перэса дэ Куэльяра М. С. Гарбачоў у заключэнне падкрэсліў: «Упэўнены, пан Генеральны сакратар, што пры вашым энергічным удзеле магчымасці ААН будуць эфектыўна выкарыстоўвацца і далей пад гуманным дэвізам Міжнароднага года міру: «Захаваць мір і будучыню чалавецтва».

## СУПРАЦОЎНІЦТВА





**Больш чым у 100 краін свету адпраўляюць сваю прадукцыю беларускія прадпрыемствы. Нашы трактары, грузавыя аўтамабілі, станкі, радыёэлектроніка, электрарухавікі і многія іншыя тавары карыстаюцца на знешнім рынку нязменнай папулярнасцю.**

**Замежныя краіны, сярод якіх такія высокаразвітыя, як ФРГ і Італія, Швецыя і Фінляндыя, ахвотна купляюць прадукцыю Маладзечанскага завода паўправадніковых вентыляў. Зараз тут вядзецца шырокая рэканструкцыя. У цэхі прыходзіць новае абсталяванне, удасканальваецца тэхналогія вытворчасці. Устаноўленая нядаўна аўтаматычная лінія герметызацыі дыёдаў (здымак злева) і іншыя навацыі дазволяць маладзечанцам павысіць якасць прадукцыі, а значыць і яе канкурэнтаздольнасць на сусветным рынку.**

**Значную долю ў нашым экспарце складаюць і тавары культурна-бытавога прызначэння. Вялікая іх партыя была закуплена Польскай Народнай Рэспублікай на нядаўняй выстаўцы-кірмашы (здымак уверсе), якую арганізавалі ў прыгранічным беларускім горадзе Гродне Саюзкаапзнешгандаль і Полькаап. Польскія партнёры прапанавалі нам швейныя і скургалантарэйныя вырабы, абутак, парфюмерыю, гаспадарчыя тавары.**

## САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

### НАБЛІЖАЮЧЫ НАВАСЕЛЛІ

Рэпутацыя станкоў з маркай аршанскага завода «Чырвоны барацьбіт» сёння вельмі высокая: яны пастаўляюцца ў 90 краін свету, не толькі не ўступаюць, але па некаторых паказчыках і перавышаюць аналагі вядомых замежных фірм.

Поспех калектыву, лічыць дырэктар завода А. Міласердны, у многім абумоўлены мэтанакіраваным рашэннем сацыяльных пытанняў. На «Чырвоным барацьбіту» вельмі часта святкуюць наваселлі. У мінулай пяцігодцы атрымалі добраўпарадкаваныя кватэры 370 сем'яў. Прадпрыемства мае добрую рабочую сталовую, куды кругла год паступае свежая гароднiна з заводскай цяпліцы, выдатную загарадную базу адпачынку «Прыазёрны бор», плавальны басейн.

Цяпер будаўніча-рамотны цэх завода значна пашыраецца. Створаны спецыяльны ўчастак па ўзвядзенню жылля. На гэтыя мэты прадугледжваецца зрасходаваць за цяперашнюю пяцігодку больш як паўтара мільёна рублёў. Намечана да 1990 года забяспечыць кватэрамі ўсіх завадчан, якія значацца ў чарзе.

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

### УСЁ ПРА КУПАЛУ

На пераплёце паўнаважкага тома — два адціснутыя золатам словы «Янка Купала» і барэльеф паэта. Гэта унікальная кніга выйшла ў выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя П. Броўкі. У ёй 3 095 артыкулаў, якія асвятляюць усё, што звязана з імем вялікага песняра. Энцыклапедыя змяшчае мноства новых або маловядомых чытачу дакументаў і матэрыялаў. Багата ілюстраванае выданне расказвае не толькі аб жыццёвым і творчым шляху паэта, але і аб увасабленні купалаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно. Сабрана таксама падрабязная інфармацыя аб родных і блізкіх Я. Купалы, аб партыйных і дзяржаўных дзеячах, вучоных, пісьменніках і крытыках, з якімі паэт працаваў.

Гэта трэцяя ў СССР персанальная літаратурная энцыклапедыя — аналагічныя выданні прысвечаны толькі М. Лермантаву і Т. Шаўчэнку.

## АКТУАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

### АДХОДЫ — У ГЛЫБ ЗЯМЛІ

Для транспарціроўкі ў глыб зямлі адходаў вытворчасці прызначана свідравіна, якая пачала дзейнічаць у вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій».

Адпрацаваныя растворы, выкарыстаныя для абагачэння калійнай руды, цяпер запампоўваюцца ў пясчанікі, якія залягаюць на глыбіні больш двух кіламетраў. Прыродная «губка» здольна ўвабраць у сябе і прафільтраваць да 300 тысяч тон вадкіх шламаў у год. Па свайму складу гэтыя так званыя залішнія расолы блізкія да пластавых падземных водаў. Адзіны шкодны кампанент — амін — вылучаюць з іх да запампоўкі на спецыяльнай фільтрацыйнай устаноўцы.

Размяшчэнне адходаў, якіх у Салігорску штогод утвараюцца мільёны тон, — складаная праблема. Частка іх выкарыстоўваецца ў вытворчасці паўторна, некаторая колькасць накіроўваецца для утылізацыі ў іншыя галіны народнай гаспадаркі. І ўсё ж над тэрыконамі з пустой пародай і сховішчамі з насычанымі растворамі солей цяпер занята больш за паўтысячы гектараў.

Скараціць іх памеры дазволіць выкарыстанне «падземных звалак». У аб'яднанні вядуцца выпрабаванні новага здабываючага комплексу, які будзе браць і выдаваць на-гара толькі каштоўную сільвінітавую руду, пакідаючы пароду ў шахце. Шырокае прымяненне гэтай тэхналогіі ў спалучэнні з новым спосабам закачкі пад зямлю вадкіх адходаў адначасова вырашыць і другую экалагічную праблему: зменшыць прасяданне глебы над месцамі выпрацоўкі. А землі, што вызваляцца ад адвалаў, можна будзе зноў выкарыстаць у сельскай гаспадарцы.

## НОВАЯ ПРАДУКЦЫЯ

### ДЛЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫХ ФЕРМ

Вытворчасць кармавых дражджэй наладжана ў саўгасе «Бярозаўскі», што на Брэстчыне.

Кожныя суткі жывёлагадоўчым фермам гаспадаркі па графіку дастаўляецца да дваццаці тон кармавых дражджэй, якія дабаўляюць у саламяную сечку, сянаж і сілас. Бялковы прэпарат значна павысіў сярэднесутачныя надоі: прыбаўка склала звыш трохсот грамаў на карову.

У гаспадарках Брэсцкай вобласці цэхі кармавых дражджэй абсталяваны ў Маларыцкім, Камянецкім і Столінскім раёнах.

З пачатку зімоўкі вытворчасць малака ў калгасах і саўгасах вобласці павялічылася на 18,4 працэнта.

## ДА НАШАГА СТАЛА

### МАГУТНАСЦІ ЗАВОДАЎ ВЫРАСЛІ

Першую прадукцыю выдаў асноўны пускавы комплекс буйнейшага на беларускім Палессі Бярозаўскага маласасыраробнага завода. У адбудаваным вытворчым корпусе прадпрыемства змантыравана сучаснае абсталяванне, механізаваны і аўтаматызаваны ўсе аперацыі. Кіраванне многімі тэхналагічнымі працэсамі забяспечнае камп'ютэр. Перапрацоўчыя магутнасці завода ўзраслі ў 2,6 раза.

Набіраюць сілу і іншыя прадпрыемствы Брэсцкага абласнога вытворчага аб'яднання малочнай прамысловасці. За кошт комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі ўдвая павялічана магутнасць Камянецкага сыраробнага завода. Высокапрадукцыйным абсталяваннем для фармоўкі, прасавання, пагрузкі сыроў аснашчаны цэхі на Кобрынскім, Высокаўскім і іншых заводах.

У аб'яднанні выпрацоўваецца больш як дваццаць назваў мяккіх і сычужных сыроў.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БАРАНАВІЧЫ. Завод станкапрылад, акрамя асноўнай прадукцыі, выпускае сёння шырокі асартымент тавараў народнага спажывання — ад розных кухонных прылад да мэблевай фурнітуры і гімнастычных масажораў. Аўтаматычнае абсталяванне цэха дазваляе хутка перастройвацца, пасніяваць за пакупніцкім попытам. А ў бліжэйшы час тут з'явіцца яшчэ больш дасканалая тэхніка — ротарна-канвеерныя лініі. Іх прымяненне палепшыць якасць тавараў, вызваліць каля пяцідзесяці станочнікаў. Вырастуць і аб'ёмы вытворчасці.

ІВАНАВА. Аўтаматычная станцыя ўведзена ў цэнтры калгаса «40 год Кастрычніка». Яе магутнасць пасля рэканструкцыі павялічана з двухсот да пяцісот нумароў. Тэлефонная сувязь злучыла рамонтныя майстэрні, жывёлагадоўчыя фермы, іншыя гаспадарчыя і культурна-бытавыя падраздзяленні аднаго з буйнейшых гаспадарак Брэстчыны. Больш двухсот тэлефонаў устаноўлена ў дамах калгаснікаў.

ГРОДНА. У шумным людскім патоку, які кожную раніцу ўліваецца ў прахадную Гродзенскага вытворчага прадзільна-ніткачнага аб'яднання, з'явіліся новыя твары. Шматтысячны калектыў папоўніўся выпускнікамі СПТВ-120. Сваю працоўную біяграфію 125 з іх пачынаюць на баваўнянапрадзільнай фабрыцы, 44 — на прадзільнай вытворчасці.

БАБРУЙСК. На заводзе трактарных дэталей і агрэгатаў здымаецца кароткаметражны фільм аб прадпрыемстве. Ужо адзняты дзесяткі метраў плёнкі ў цэхах завода. Фільм раскажа аб працоўных буднях, аб тым, якімі клопатамі жыве сёння рабочы калектыў. Рыхтуецца таксама фотавыстаўка пра гісторыю развіцця і станаўлення завода.

*ЛАНГЕПАС—ГОРАД БЕЛАРУСКІ*

# III. ПЕСНІ НАД ТАЙГОЙ

Летнім вечарам 1982 года каля вагончыка, дзе жыў Леанід Лагун, спынуўся грузавік, і гаспадар разам з двума памочнікамі сталі асцярожна выгружаць з кузава фартэпіяна. Сабраліся цікаўныя. Людзей здзівіла, што ў цесным вагончыку, дзе цяжка размясціць нават самыя неабходныя рэчы, Лагун збіраецца яшчэ і фартэпіяна паставіць. «Лёня, ты яго да столі падвешвай», — жартаваў сусед.

Не звяртаючы ўвагі на смяшкі, Лагун мудраваў, як гэта праціснуць інструмент у вузкія дзверы. І толькі калі ўсё было скончана, фартэпіяна занеслі ў вагончык, гаспадар выйшаў на ганак і абвясціў, што заўтра ён і яго дзеці запрашаюць усіх на свой першы канцэрт...

Леанід Лагун па прафесіі машыніст крана. А музыка — яго даўняе захапленне, іграе з малых гадоў на самых розных інструментах. Займаюцца музыкай і ўсе трое дзяцей Леаніда Міхайлавіча. І таму зразумела, што першай дарагой пакупкай, якую яны зрабілі, пераехаўшы ў Лангепас, было фартэпіяна. Цяпер па вечарах у сям'і Лагуноў сталі збірацца сябры, знаёмыя. Некаторыя (таксама музыканты-аматары) прыходзілі са сваімі інструментамі. Утварыўся невялікі самадзейны аркестр. Падобныя вечарынкі наладжваліся і ў іншых сем'ях.

Стала відавочна: Лангепасу, дзе жыло ўжо каля двух тысяч чалавек, патрэбен Дом культуры. Але планавая чарга да яго яшчэ не дайшла, таму не было ні праекта, ні сродкаў для будаўніцтва. Моладзь пасёлка (а ўзводзіць новы горад прыехалі ў Сібір пераважна людзі маладыя) звярнулася да кіраўніцтва трэста з ініцыятывай будаваць Дом культуры ў нерабочы час як пазапланавы аб'ект. Пачынанне было адобрана.

Дому культуры далі назву «Беларусь». Па тым часе гэта быў самы вялікі і прыгожы будынак Лангепаса. Комплекс меў дзве залы — глядзельную і спартыўную, многа пакояў для рэпетыцый, у прасторным фае наладжваліся танцавальныя вечары. Дом культуры стаў цэнтрам культурнага адпачынку лангепасцаў. Было арганізавана некалькі клубаў і студый: музычная, драматычная, фотааматараў, рукадзелля і народнай творчасці... Тут жа размясцілася экспазіцыя жывапісных палотнаў мастака-аматара Васіля Круцкевіча, будаўніка па прафесіі. Яго карціны «Пачатак», «Будуецца мост», «У рабочым кар'еры», «Каюкаўская пратока» і многія іншыя, сярод якіх таксама партрэты людзей, — гэта своеасаблівы летапіс пераўтварэння «вавёрчыных угоддзяў». Дарэчы, дзесяць работ В. Круцкевіча былі прадстаўлены і на Усесаюзнай мастацкай выстаўцы.

У Доме культуры размясцілася таксама бібліятэка, фонд якой складае некалькі дзесяткаў тысяч кніг.

А дзеці Лангепаса маюць сваю бібліятэку. Пра гісторыю яе стварэння варта расказаць больш падрабязна. Усё пачалося з публікацыі пісьма лангепаскіх школьнікаў у рэспубліканскай газеце «Піянер Беларусі». Дзеці пісалі пра сваё жыццё ў Сібіры і ўпамянулі, што ўсё цікавае для іх у «дарослай» бібліятэцы яны ўжо перачыталі і цяпер настаў «кніжны голад». Пісьмо выклікала шырокі водгук. «Давайце арганізуем збор літаратуры для дзяцей з таёжнага горада», — прапанавалі хлопчыкі і дзяўчынкі з Мінска, Гомеля, Магілёва... І хутка газета аб'явіла аперацыю «Кнігі для Лангепаса». У рэдакцыю, якая стала своеасаблівым штабам, кожны дзень прыходзілі пасылкі. Адсюль кнігі адпраўляліся ў Сібір.

Яшчэ ў 1982 годзе, праз два гады пасля таго, як у Лангепас прыехалі першыя будаўнікі, тут адкрылася і дзіцячая музычная школа. Цяпер у ёй займаюцца каля трохсот хлопчыкаў і дзяўчынак. Яны вучацца іграць на фартэпіяна, баяне, скрыпцы, беларускіх цымбалах.

Так вось паступова і наладжвалася ў Лангепасе нармальнае жыццё. За шэсць гадоў сярод тайгі і балот вырас сучасны горад.

Але беларускія будаўнікі думалі не толькі пра свае праблемы. У першыя ж гады яны наладзілі кантакты і ўсяляк дапамагалі насельніцтву суседняга таёжнага пасёлка Аган — хантам — карэнным жыхарам гэтага краю. Пабудавалі ў пасёлку клуб, адрамантавалі школьны інтэрнат, электрастанцыю. І хаця дарога да Агана не блізкая і цяжкая (70 кіламетраў праз балоты і тайгу), сустрэчы бываюць часта. Работнікі Лангепаскага Дома культуры арганізоўваюць у пасёлку разнастайныя культурныя мерапрыемствы, пастаянна дапамагаюць хантам і гарадскія службы сервісу.

Словам, нашы землякі прыйшлі на цюменскую зямлю не толькі за нафтай і газам. Яны даюць жыццё гэтаму глухому кутку таёжнага краю, нясуць сюды сучасную вытворчасць, культуру, быт...

**Леанід АНІКЕЕЎ.**







**НА ЗДЫМКАХ: вечарам у бібліятэцы; юныя лангепасцы; у Доме культуры. Рэпеціруе вакальна-інструментальны ансамбль «Лангепас».**

## АГРАКОМПЛЕКС «ПАЛЕССЕ»

Палеская нізіна Беларусі — гэта ў літаральным сэнсе злепак усіх складаных балотных структур Еўропы і адначасова фантастычна разнастайны раслінны мацярык, які цягнецца ўздоўж ракі Прыпяць на 450 кіламетраў. Яго «ўладанні» (без уліку тэрыторыі Украінскай ССР) складаюць 6 мільёнаў 100 тысяч гектараў. Цяпер на меліяраваных землях беларускага Палесся ствараецца некалькі дзесяткаў жывёлагадоўчых саўгасаў. Яны ўвойдуць у адзінае Палескае аграпрамысловае аб'яднанне, якое ўжо к канцу дванаццатай пяцігодкі будзе пастаўляць прыкладна столькі мяса, колькі сёння яго дае ўся рэспубліка.

Калі ў шасцідзесятыя гады тут здымалі не больш чым 16—20 цэнтнераў збожжавых з гектара, то цяпер лепшыя гаспадаркі атрымліваюць збожжа па 50—60 цэнтнераў. Ёсць саўгасы, дзе меліяраваны гектар даўно акупіўся, прыносячы 750—760 рублёў чыстага прыбытку штогод (затраты на паляпшэнне аднаго гектара палескай зямлі складаюць 120—150 рублёў).

Характэрная рыса сённяшняга Палесся — паглыбленая спецыялізацыя гаспадаркі на базе аграпрамысловай інтэграцыі. Замест традыцыйнай стракатасці сельскагаспадарчых напрамкаў выдзелены толькі самыя перспектыўныя з улікам якасці ралі.

Сёння заказчык абнаўлення Палесся — уся краіна, а генеральны падрадчык — галоўнае ўпраўленне па асушэнню земляў і будаўніцтву саўгасаў на Палессі (Галоўпалессеводбуд). У яго ўваходзяць 60 будаўніча-мантажных арганізацый, заводы па вытворчасці жалезабетонных вырабаў, прадпрыемствы, якія пастаўляюць керамічныя і дрэнажныя трубы, нарэшце, заводы па рамонту тэхнікі. Колькасць усіх работнікаў упраўлення — 45 тысяч чалавек, а сумарная магутнасць машын перавалiла далёка за паўтара мільёна конскіх сіл. Меліяратары на Палессі ўжо перадалі саўгасам больш мільёна адроджаных земляў.

Кола задач, звязаных са стварэннем такіх аграпрамысловых комплексаў, як «Палессе», не абмяжоўваецца толькі сферай эканомікі. Яно ўключае і рашэнне сацыяльных праблем у вёсцы. Палепшыць умовы працы, павысіць эфектыўнасць вытворчасці і дабрабыт сельскіх жыхароў — вось канчатковыя мэты дзяржаўнай праграмы інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

ШТО НОВАГА НА «ГОМСЕЛЬМАШЫ»

## КАМБАЙН ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

Мы ў канструктарскім бюро вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», аднаго з самых буйных прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання ў Беларусі. Тут вырашаюцца самыя розныя задачы па стварэнню новых кормаўборачных камбайнаў.

Канструктарскае бюро — мазгавы цэнтр прадпрыемства. Сярод мноства аддзелаў і лабараторый ёсць і такі, дзе ідзе распрацоўка тэхнікі XXI стагоддзя — камбайна-аўтамата. Малады інжынер-канструктар Анатоль Ходзін знаёміць з новай мадэллю.

Прагудзеў мікрарухавік, і камбайн без камбайнера выкатваецца на імправізаванае поле. Вось ён стаў «на грунце». Уключаецца перадача — і камбайн пачынае працаваць. Ён ідзе па зададзенаму контуру поля, рухаецца лёгка — універсал па ўсіх аперацыях. Дзесяткам такіх самаходных камбайнаў-аўтаматаў з пульта можа кіраваць на адлегласці адзін аператар.

Нашу фантазію спыняе начальнік цэха нестандартызаванага абсталявання Барыс Элькін.

— Гэта будучыня. А сёння галоўная задача — стварыць якасна новыя машыны на базе выпускаемых раней папулярных самаходных кормаўборачных камбайнаў КСК-100. На шляху да стварэння камбайна-аўтамата яшчэ ёсць вялікія цяжкасці. Гэта толькі здаецца, што аўтаматызаваць камбайн вельмі проста. Але ідэя поўнай аўтаматызацыі яго асобных вузлоў ужо ажыццяўляецца. Напрыклад, падпісаны тэхнічныя акты пробных выпрабаванняў прынцыпова новых самаходных камбайнаў «Сож» і «Палессе». Мы вырашылі так: адным толькі ўдасканаленнем канструкцыі КСК-100 праблему аснашчэння корманарыхтоўчай вытворчасці найноўшай тэхнікай не вырашыш. Патрэбна прынцыпова новая машына, якая захавала б усё лепшае ад папярэдніка. Заданне мы выканалі. Сабралі пяцьдзесят машын, якія праходзяць ужо выпрабаванні ў Гомельскай вобласці, а таксама ў Стаўрапольскім краі і на машынавыпрабавальных станцыях. Атрыманы першыя водгукі. Старшыня беларускага калгаса імя Урыцкага Аркадзь Паташкін піша: «Камбайн «Сож» зручны ў эксплуатацыі, лёгка пераналаджваецца на выкананне розных тэхналагічных аперацый, мае добрую манеўранасць і праходнасць, камфартабельную кабіну. Яго прымяненне дазволіла замяніць тры ранейшыя камбайны...» Такія водгукі абнадзейваюць. Сапраўды, навінка больш зручная ў эксплуатацыі, працаёмкасць яе абслугоўвання мінімальная. Апраўдвае сябе і кампаноўка: вядучым стаў пярэдні мост, што палепшыла эксплуатацыйныя якасці машыны.

Уважліва сочаць у калектыве яшчэ за адной навінкай — камбайнам «Палессе». Гэта машына другога пакалення, якая выгадна адрозніваецца ад сваіх «старэйшых» братоў. Яна стане на канвеер у бягучым пяцігоддзі і будзе мець больш магутны рухавік і камфартабельную кабіну, яе канструкцыя ўвасобіць усе апошнія дасягненні сусветнага камбайнабудавання. Прадугледжана, напрыклад, і такая унікальная аўтаматызаваная прылада, як сістэма для ўлоўлівання камянёў і ўнясення ў глебу хімічных кансервантаў.

...25 сакавіка 1977 года з заводскіх варот «Гомсельмаша» выйшлі першыя айчынныя самаходныя кормаўборачныя камбайны КСК-100. Іх выпушчана больш за 40 тысяч. Цяпер на змену ім прыходзяць больш сучасныя самаходныя камбайны «Сож» і «Палессе». І хто ведае, можа, ужо праз некалькі год мы ўбачым камбайн-аўтамат.

**Яўгеній ПАЎЛЮЦЬ.**

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Дарагія таварышы, супрацоўнікі таварыства «Радзіма», сардэчна віншуем вас і ўвесь беларускі народ з Новым годам! Няхай 1987-мы год прынясе дабро і шчасце, чыстае неба над галавой і мір усяму свету!**

**Праўленне і члены таварыства «Луна» г. Амстэрдама.**

Нідэрланды.

**Дарагія сябры!**

**Віншуем вас і ўвесь савецкі народ з Новым, 1987 годам!**

**Жадаем вам многа шчасця, моцнага здароўя і поспехаў у вашай высакароднай дзейнасці!**

**Члены і праўленне таварыства «Радзіма» гор. Ратэрдама.**

Нідэрланды.

**Дарагія супрацоўнікі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад імя членаў і сяброў руска-славянскага культурнага таварыства віншуем вас з Новым, 1987 годам!**

**Жадаем вам, вашым сем'ям і ўсяму савецкаму народу здароўя, шчасця і дабрабыту!**

**Дазвольце выказаць шчырую падзяку за вашы віншаванні, газеты, брашуры, кніжкі, календары і пажадаць вам новых поспехаў на высакароднай ніве служэння міру.**

**Па просьбе членаў РСКТ Н. ЧАРАПАНАВА, Н. ІРЭНКОЎ.**

Аўстралія.

**Дарагія таварышы ў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Дазвольце павіншаваць вас, а таксама ўсе народы Савецкага Саюза з Новым, 1987 годам. Жадаю вам поспехаў у рабоце і добрага здароўя!**

**Няхай жыве мір ва ўсім свеце!**

**Мікалай ВЯЕЎНІК.**

Англія.

**Дарагія сябры!**

**Сардэчна віншуем вас з Новым, 1987 годам! Жадаем вам, а таксама ўсяму савецкаму народу новых поспехаў у працы, на карысць міру і прагрэсу! Усім вам добрага здароўя і вялікага асабістага шчасця!**

**Наталля МУВЕЕЦ. Таварыства «Журавушка».**

Швецыя.

**Дарагія сябры!**

**Віншуем усіх супрацоўнікаў таварыства «Радзіма», рэдакцыю газеты і ўвесь беларускі народ з Новым, 1987 годам!**

**Жадаем добрага здароўя, вялікіх поспехаў у працы і асабістым жыцці і многа шчасця.**

**Няхай новы год будзе для ўсіх людзей нашай Зямлі годам дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі, годам міру і спакойнага жыцця!**

**Няхай цясней самкнуцца рады міралюбівых людзей у барацьбе супраць ядзернага знішчэння нашай цудоўнай планеты, гаспадарамі якой з'яўляюцца ўсе народы Зямлі, а не кучка імперыялістаў, звар'яцелых у пагоні за прыбыткам і ад нянавісці да свабоднага свету.**

**Найлепшыя пажаданні ад брысбенскіх суайчыннікаў — чытачоў бібліятэкі імя Някрасава!**

**Са шчырай павагай Фрыда ПІДГАЙНАЯ.**

Аўстралія.

# ПЕРВЫЙ ШАГ К НЕВЕДОМЫМ МИРАМ

*К 80-летию СО ДНЯ РОЖДЕНИЯ АКАДЕМИКА СЕРГЕЯ КОРОЛЕВА*

12 января 1987 года исполнилось 80 лет со дня рождения Сергея Королева—создателя первого в мире пилотируемого космического корабля.

Шведский физик лауреат Нобелевской премии Ханнес Альфвен так сказал о нем: «Сергею Королеву больше, чем кому-либо другому, принадлежит заслуга в том, что космический век стал реальностью».

Будущий главный конструктор ракетно-космических систем родился в Житомире, в семье школьного учителя. Несколько позже семья переехала в Одессу. В порту этого черноморского города размещался в ту пору отряд гидросамолетов, и Сергей всерьез и надолго «заболел» авиацией. В шестнадцать лет он сконструировал свой первый планер, через год стал студентом аэромеханического отделения Киевского политехнического института.

Свое инженерное образование Королев завершал в Московском высшем техническом училище имени Н. Э. Баумана, где работали известнейшие ученые. И это обстоятельство сыграло немаловажную роль в становлении Королева как конструктора. Руководителем его дипломного проекта был выдающийся авиаконструктор Андрей Туполев.

Ракетостроение в конце двадцатых—начале тридцатых годов находилось не на первых ролях: многие организации, занимавшиеся проблемами реактивного движения, работали на общественных началах. Королев одним из первых инженеров-практиков оценил все возможности, заложенные в ракетах. Возглавляемая им Группа изучения реактивного движения (ГИРД) быстро доказала серьезность своих разработок и в 1933 году вошла в состав уже официальной организации—первого в мире Реактивного научно-исследовательского института. Королев в этом институте возглавляет работы по баллистическим и



крылатым ракетам, создает несколько вариантов ракетопланов.

В годы Великой Отечественной войны С. Королев занимался проектированием и установкой ракетных ускорителей на боевые самолеты. Как только появились сведения о Фау-2, баллистической ракете, созданной в гитлеровской Германии, Королев внимательно изучает все, что относится к этому новому виду оружия.

Сразу после войны США начали проводить политику атомного шантажа. Советский Союз вынужден был предпринимать меры противодействия. В 1946 году С. Королев назначается главным конструктором по созданию баллистических ракет дальнего действия. Уже через два года СССР располагал ракетой (Р-1), которая по своим характеристикам превосходила Фау-2. Американцы, несмотря на то, что собрали у себя лучших ракетчиков из нацистской Германии, смогли получить ракету, аналогичную Р-1, лишь несколькими годами позже. Возглавлявшемуся Королевым коллективу принадлежит решающая роль и в разработке первой в мире двухступенчатой межконтинентальной баллистической ракеты.

Наступала эра практической космонавтики. В сентябре 1956 года США попытались запустить спутник с помощью трехступенчатой ракеты. Попытка не удалась: ракета пролетела лишь около 5 тысяч километров. Но и это было подано американской прессой в качестве выдающегося достижения. В США все громче начинали говорить о завоевании господствующего положения в космосе. О претензиях на лидерство говорило и название первого американского спутника—«Авангард». Однако авангардную роль этому аппарату так и не удалось сыграть. У нас в стране исследования верхних слоев атмосферы с помощью ракет по инициативе Королева были начаты еще в конце 40-х годов. На ракетах поднимали также животных, отрабатывая варианты их возвращения на Землю. В 1956 году был разработан эскизный проект первого спутника, за год до этого начато строительство космодрома Байконур.

Межконтинентальная баллистическая ракета послужила базой для создания носителя, поднявшего в октябре 1957 года первый в мире советский искусственный спутник Земли.

По разработанной Королевым программе начинается подготовка к полету человека в космос, создаются первые межпланетные станции для исследования Луны, Марса, Венеры. Эти аппараты принесли советской космонавтике ряд блистательных приоритетных достижений. Главный конструктор придавал большое значение надежности космической техники. Первому полету человека в космос предшествовали пять беспилотных запусков космических кораблей, в двух последних была полностью смоделирована вся программа предстоящего полета: от старта до посадки.

12 апреля 1961 года в космос поднялся человек, имя которого известно ныне всему миру, — Юрий Гагарин. За ним стартовали другие, в том числе первая в мире женщина-космонавт Валентина Терешкова. А в конструкторском бюро Королева шла работа уже над следующим поколением кораблей — многоместными «Восходами», на одном из них был осуществлен первый выход человека в открытый космос. Это была последняя работа академика С. Королева в области пилотируемых полетов. Осталось много незавершенных замыслов, оригинальных конструктивных разработок. Изготавливались первые образцы нового космического корабля «Союз», летные испытания которого начались уже после смерти главного конструктора, велись проработки проектов орбитальных станций.

Профессор Константин Феоктистов, долгие годы проработавший с Королевым, говорит о своем наставнике и учителе так: «Если бы Сергей Павлович жил несколько столетий назад, он, возможно, поплыл бы открывать новые земли. В наше время он помог сделать человечеству более серьезное— первый шаг к неведомым мирам Вселенной».

**Михаил ЧЕРНЫШОВ. (АПН).**

**НА СНИМКЕ: Сергей КОРОЛЕВ вместе с первым космонавтом Земли Юрием ГАГАРИНЫМ.**

**СОВЕТСКИЕ ДИСКИ ПАМЯТИ ЭВМ ПРЕВОСХОДЯТ ЯПОНСКИЕ ПО ТОЧНОСТИ ИЗГОТОВЛЕНИЯ**

# МОСКОВСКИЕ ТОКАРНЫЕ СТАНКИ

**Семейство прецизионных (высокоточных) токарных станков, позволяющих получать самые гладкие в мире поверхности с высотой микрорельефа не более 100 ангстрем, создано на московском заводе «Красный пролетарий». Производительность труда при применении этих станков возрастает от 30 до 100 раз.**

Детали с гладкой поверхностью и высокой точностью заданной формы нужны были в технике всегда. Но раньше точность и массовость производства не обязательно должны были дополнять друг друга: прецизионные детали требовались в единичных экземплярах, и производительности известных еще со времен Древнего Египта методов полировки и доводки вполне хватало. А для массовых изделий вполне хватало той точности, которую обеспечивали обычные токарные и шлифовальные станки.

Но с появлением компьютеров, а точнее, их дисковой внешней памяти, ситуация изменилась. Чтобы обеспечить быстроту считывания и записи информации, без чего немыслимо быстродействие самих компьютеров, диски необходимо разгонять до 3 000 оборотов в минуту. Магнитные головки при таких скоростях, естественно, не могут соприкасаться с поверхностью—они быстро сотрутся, поэтому их приходится «подвешивать» с минимально возможным воздушным зазором: всего в полтора-два микрона. Отсюда вытекают как минимум два требования к качеству диска. Во-первых, высота микронеровностей на его поверхности (шероховатость) не должна превышать десятых долей микрона, чтобы головки не наталкивались на них. И, во-вторых, должна быть безупречной точность формы диска.

— При обработке дисков по традиционной технологии требовались десятки различных станков,—рассказывает начальник специального конструкторского бюро завода «Красный пролетарий» Владимир Горохов. — Вот почему целесообразнее было создать особые, узкоспециализированные станки. И мы их сконструировали.

В каждом из этих станков стоит натуральный алмаз. Синтетические здесь не годятся—они состоят из множества мелких монокристаллов, а режущая грань резца должна иметь абсолютно прямую форму. Иначе останутся неровности на обрабатываемой поверхности. Второе условие—практически полное отсутствие вибраций (если резец дрожит, мы получим нечто вроде рекордера для нарезания звуковых дорожек на грампластинках). Оно выполнено за счет того, что и шпиндель, и суппорт движутся на гидро- или аэростатических подшипниках, а сам станок стоит на виброизолирующих опорах. Причем если в первых моделях мы применяли гидростатику, то сейчас перешли на сжатый воздух. У него меньше вязкость— значит, плавнее ход.

Нас нередко спрашивают, а как выглядят ваши станки в сравнении с продукцией английских, японских, голландских фирм? Ну вот такой пример. На выставке «Металлообработка-84» в Москве экспонировались станки японской фирмы «Тойота» аналогичного назначения. Мы попросили японцев обработать на них наши диски, а потом сравнили результаты. И вот что получили.

По точности придания формы станки «Красного пролетария» превзошли японские: у дисков, обработанных нами, приборы не улавливают вообще никаких отклонений, а у японцев идет по поверхности легкая—в пределах допустимого, впрочем,—волна. Что касается шероховатости, то ее померить вообще не удалось—в обоих случаях высота микрорельефа была ниже чувствительности приборов.

Но мы, конструкторы, обязаны смотреть вперед, предусматривать запросы завтрашнего дня. А завтра от наших станков потребуются еще более высокие характеристики.

Пути дальнейшего улучшения характеристик наших станков нам ясны. Цель—ради чего этого надо добиваться—тоже. Чем более высококачественную поверхность диска получишь, тем большую информационную емкость накопителя удастся обеспечить. Если для мощных ЭВМ это обстоятельство еще не столь важно, то для персональных компьютеров, где применяются встроенные винчестеры, оно приобретает решающее значение.

**Георгий АФАНАСЬЕВ.**

# SOCIAL STRUGGLE IN SOCIETY AND RECONSTRUCTION

**One distinguishing feature of Soviet society today is a heightened struggle of the new against the old, of the forces of progress and renewal against the conservative and bureaucratic forces. The struggle of the new against the old is a law governing the improvement of socialist society; but at different stages of development and under different specific conditions this struggle assumes sometimes more, sometimes less acute forms.**

### FOUR POSITIONS

WHY has this constantly arising and soluble contradiction of social life now acquired such an acute character?

This is due to the fact that since the 27th CPSU Congress the Soviet Union has been in the process of restructuring every aspect of life as the indispensable condition for accelerating the country's socio-economic development. The proceedings of the Congress stirred everyone, and its decisions provided a formidable dynamic impetus to society. The atmosphere of exactingness and strictness, openness and truthfulness, which prevailed at the Congress, galvanized the political awareness of the masses and set them in motion, for, as Lenin said, «...The **only effective** force that compels change is popular revolutionary energy».

The working people are demanding ever more resolutely that the reconstruction be carried out everywhere and assume a businesslike character.

However, it would be wrong to believe that everyone in Soviet society is thinking and acting alike, in the spirit of the congress' decisions. If this were so, the reconstruction would have already been accomplished and all that would remain would be to reap its fruits. But this is not so. As was pointed out at the Plenary Meeting of the CPSU Central Committee in June 1986, «the reorganization is still unduly slow. The switch-over to quality, efficiency and new management methods is difficult and painful».

In Soviet society, as was stressed at the same Plenary Meeting, there are three social forces which are adopting a different attitude to the decisions of the Congress and are acting differently. The people doing good work nowadays are those who have resolutely backed the stand of the 27th Congress, who have become vigorously involved in the common drive, who are sparing neither time nor effort and are fitting in effectively with the process of reorganization. However, there are quite a few people who, while realizing the political need to work in a new way, simply do not know how to do this in practice. They must be helped in every way possible. And, lastly, there are those who have not yet grasped the essence of current changes, who are sticking to a wait-and see position or do not believe in the success of the economic and political breakthrough the Party has mapped out. Speaking to the Party activists of the Krasnodar Territory, Mikhail Gorbachev named one more group, the fourth. He said: «Time has shown that there are also quite a few of those who understand perfectly well what reconstruction means. But, understanding what its consequences will be, these people do not accept it. It goes against the grain with them, so to speak».

How is this position of theirs to be explained and is it at all fortuitous? «It is precisely those people», as noted in the same speech, «who would like to give less to society and take more from it. We have talked about them for many years, but only now have we decided to lay claims to them in the proper way. Such people can be found among workers and peasants and among leading officials and workers in the apparatus. They are also to be found among our intelligentsia».

It stands to reason that a struggle is going on, and must go on, between those who actively stand up for the decisions of the Congress, who hold a worthy place in the reconstruction, and those who are resisting it in one way or another, not believing in its success, or those with whom it simply «goes against the grain», who actively «do not accept it». Moreover, this struggle does not remain the same all the time: the farther the reconstruction advances, the sharper the struggle becomes. Why?

### PEOPLE AND INTERESTS

The SPECIAL acuteness of the present-day struggle is due, first and foremost, to the breadth of the reconstruction: ever more numerous strata of working people are joining this process in ever new spheres. The confrontation between progressive and conservative social forces is unfolding on an ever widening bridgehead.

And this process will further intensify, because more and more people are coming to understand that it is no longer possible to live, work and think in the old way.

The special acuteness of the present-day struggle of the new against the old is also to be explained by the **depth** of current changes: it is already demanding much of people, and if it has not yet affected or poorly affected someone, ...y, it will affect, and do so ...y thoroughly, tomorrow.

Lasty, the struggle is being exacerbated by the high **degree of concern on** the part of the contending forces, championing their positions and their interests. To get a better idea of this key issue and a better clarity of the situation which has taken shape in Soviet society in the past few decades, there is a need to take the following into account.

It is an elementary truth for Marxism that nothing is done and nothing is accomplished in social life without a definite human interest. Everything there is in the life of society — either good or bad, irrespective of whether this concerns slogans, calls or practical actions themselves — all of this does not fall from out of the sky, but is done by real people and by them alone. «People always have been», Lenin wrote, «the foolish victims of deception and self-deception in politics, and they always will be until they have learnt to seek out the **interests** of some class or other behind all moral, religious, political and social phrases, declarations and promises».

More often than not this truism of materialism and Marxism is applied to the future, saying that if we want to do something, to achieve something, to bring some idea to fruition, it has to be connected with people's interests, there is a need to rekindle their interest in this idea and do everything possible for this idea to grip the masses. If this is so — and it is evidently impossible to refute the above— then, consequently, whatever has already been done in life, or embodied in particular living realities, has also been accomplished and done by virtue of someone's interest or to someone's advantage. Let us make one more step: it means that not only everything good but also everything bad there is in our life has also been born by virtue of someone's advantage. Hence red tape and formalism, eyewash and servility, and not only corruption and padding, are not some fortuitous faceless overgrowths on the social organism that have fallen from the sky — no, these are the products of the activity of real people, a result of someone's interest, to someone's advantage. Even if this interest consisted in doing nothing and lazying around and the advantage implied the simple convenience to act only on orders from above, not to think for oneself, not to assume responsibility for decision making.

Hardly anyone fails also to understand that stagnation phenomena have become rooted and the positions of anti-social forces have grown stronger through omissions in work during the past two decades of Soviet society's development. «We must admit today», it was said at the Congress, «that owing to a slackening of control and for a number of other reasons groups of people have appeared with a distinct proprietory mentality and a scornful attitude to the interests of society». Moreover, the carriers of these proprietory sentiments are not former small holders», philistines, etc. These sentiment are to be found in people from different social groups and classes. They were reared and nurtured not by petty-bourgeois atmosphere, but by the environment in which the alliance of morally regenerated officials and embezzlers of material benefits, an alliance based on corruption, dictated more and more often its own canons of morality, its own standards of conduct and its own understanding of prestige. After losing the socialist values and the social orientation inherent in the new person of socialist society, these people with distinctly pronounced proprietory sentiments got hold of many methods to satisfy their ambitions and reach their ideals that are profoundly alien to socialism. Having believed in their impunity on the basis of past experience, they maintained that they were the incarnation of the way of life which was about to be institutionalized.

The reconstruction went against the grain with these groups of the population. Nor is it surprising: having learned to snatch more from the state with the help of «write-ups» and «paddings», as well as «sitting around looking busy» and «smoke breaks», meetings instead of work, or simply by means of direct pilfering and profiteering, they are perfectly well aware of what the consequences of the reconstruction will be. Given its consistent implementation, they will really have to work and work hard to honestly earn their income, and they are not accustomed to this and do not want to get accustomed to it either.

The course mapped out by the 27th CPSU Congress is spearheaded against such social «spongers» who have lost the image of honest workers, and is aimed to eradicate the negative phenomena on which these people used to parasitize. It inevitably evokes fierce resistance from these groups of the population and other anti-social forces seeking to retain whatever they have unlawfully appropriated or stolen, and to keep their former positions and possibilities.

These are the main reasons of the growing struggle of the new against the old in Soviet society. Speaking at the conference of heads of social sciences departments at higher schools, Mikhail Gorbachev said: «A sharp, and not always open, but always uncompromising struggle of ideas, psychological orientations, and modes of thinking and conduct is going on in the course of the reconstruction of our life and its renovation. The old way will not ... up without a battle».

W... does the present struggle amount to and what are its prospects?

### THE DRAMA OF LIFE

THE STRUGGLE is not a sum total of individual clashes of quarrelsome personalities, nor a colision of different characters or mentalities, nor a confrontation of generations but a social struggle with its own firm social causes. A social struggle within triumphant socialism? Is this at all possible« Isn't it an attempt to extend the class struggle to socialist society?

Not at all! Such apprehensions are groundless. They can be harboured only by those who either through ignorance or mistake erroneously identify everything social with class. No one is talking about continuing a struggle of class against class, that is, **the class struggle** in a society in which there are no longer social-class antagonisms. The social class in question is by no means linked to social-class antagonisms or even to class delimitating boundories, but to the social positions and socially meaningful actions of people: its protagonists and their opposites are to be found in every large social group and in every social class. But this does not make the social confrontation any less acute.

Speaking at the 4th Plenary Meeting of the Central Committee of the Communist Party of Moldavia on October 22, 1986, I. P. Kalin, Chairman of the Council of Ministers of the Moldavian SSR, said: «A struggle is going on, a tough battle aginst the sworn enemies of the working class — embezzlers, thieves, bribe takers and window dressers. They are, in effect, little different from the kulaks and NEP-men who were parasites living on the young Soviet Republic. The main burden of this struggle is still ahead. There is a need to build, as was stressed in the resolution of the CPSU Central Committee, a united front of attack against all these dangerous social phenomena, to combat not individual facts, but to explode their very foundation — their economic, social and political roots». Explaining the character of the antisocial forces' behaviour, the speaker went on to say: «In the present situation the latter-day parasites, pursuing their selfseeking interests, present a formidable danger and can inflict irreparable damage on our society. They do not relinquish their positions on their own free will, neither do they disarm themselves. Perpetrating their dirty deeds far from the public eye quitly profiting by the humaneness of our morality, under definite conditions they go over onto the attack, get together criminal groups, and when they sense the approach of exposure and retribution, they make no scruples about resorting to anything to evade it, such as currying favour, bribery, blackmail and even physical violence. Therefore we are not talking of imaginary enemies, but real enemies».

To those who have got used to thinking in terms of long-assimilated but unverified dogmas, it seems that such an acute social confrontation is in principle impossible in socialist society. However, Marxism-Leninism has never asserted that the socialclass antagonism is the only source generating a clash of social interests, it has never maintained that the elimination of the opposite interests of social classes rules out any socially important conflicts of interests, nor has it ever denied that in a society with no exploiting classes to contend with, the realization of the new social ideals — socialism and communism — continues to be an object of social struggle.

Soviet society's life today is a cogent reminder of these unshakeable truths, which have been forgotten by some.

CONSIDERING the fact that the restructuring of every aspect of Soviet society is the result of social struggle — a struggle which is very acute and complicated — it would be wrong to see the course of the reconstruction as a straightforward process without difficulties or setbacks. «We do not hide difficulties, neither objective nor subjective», said Yegor Ligachev at the meeting to celebrate the anniversary of the October Revolution last year. «A struggle is in progress. It is the struggle of the forces of renewal against those who would like to derail reconstruction and to push us into the quagmire of economic stagnation and social apathy. There can be no concession to the obsolete, because what is at stake is the future of socialism and our country's fate». Being well aware of the full responsibility of the initiated undertaking, the CPSU is rallying the working people to take part in an uncompromising social struggle in the name of the goals set by the 27th Congress.

**By Professor Anatoly BUTENKO, D. Sc. (Philosophy)**

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# АД ЦЯБЕ, БЕЛАРУСЬ,—МАЯ ПЕСНЯ

Імя Валянціны Аколавай упершыню з'явілася на старонках нашай газеты напачатку 1980 года пасля семінара маладых пісьменнікаў, які незадоўга да гэтага прайшоў у Каралішчавічах. Мы пазнаёмілі нашых чытачоў з некалькімі вершамі маладой паэтэсы, вершамі шчырымі, цёплымі, прасякнутымі любоўю да роднай беларускай зямлі.

Нарадзілася Валянціна Аколава ў 1954 годзе ў вёсцы Мазуршчына Салігорскага раёна. Скончыла Полацкае педвучылішча, потым завочна Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна. Працавала настаўніцай, карэспандэнтам шматтыражнай газеты, у выдавецтве «Юнацтва».

У 1983 годзе выйшаў зборнік маладых паэтаў «Сцяжына», які адкрываўся вершамі Валянціны Аколавай і першым быў лірычны верш «Радзіма»:

**Ядловец зялёны і гронка рабіны.**
**У небе разветраны клін жураўліны—**
**Радзіма!**
**Пад сонцам туманам схаваецца рэха.**
**За полем Анюціным спеюць арэхі —**
**Радзіма!**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**Маўчаць у граніце нямым абеліскі.**
**Над імі вякі нахіліліся нізка—**
**Радзіма!**

Летась Валянціна Аколава прынята ў Саюз пісьменнікаў БССР. Хутка з друку выйдзе яе новая кніжка «За тым лугам зеляненькім», вершы з якой мы прапануем сёння ўвазе нашых чытачоў. Пазнаёміўшыся з творамі гэтага зборніка, народны паэт Беларусі Пімен Панчанка пісаў, што яны «чалавечныя і шчырыя. Пачуццё радзімы, свайго народа, адчуванне роднага слова, роднай прыроды надаюць вершам В. Аколавай свежасць, яркасць і праўдзівасць».

Пра сябе паэтэса гаворыць, што на пытанне, адкуль бярэ пачатак яе першая паэтычная сцяжына, з чаго пачалося для яе разуменне і адчуванне паэзіі, яна адказвае: з беларускага фальклору.

«Гарачая матчына песня... Яна апякае вусны першы раз у дзяцінстве, а пасля ўсё жыццё грэе душу, — гаворыць В. Аколава. — Я помню яе наіўнай і каляднай, вясельнай і дарожнай, купальскай і жалобнай. І кожная адноўленая мелодыя як россып у роднай беларускай мове, як залатое зерне слоў-спадчыны. Праз багатую мілагучнасць песні адкрываўся для мяне вялікі свет любові, шчырасці, ласкі, дабрыні, вернасці, працы... Раздольныя запевы і напевы даўніны даносяць да кожнага сэрца натхнёныя справы-думкі нашых прашчураў, землякоў-папярэднікаў. Чалом — песні Беларусі. Ты схілялася над калыскай полацкага першадрукара Францыска Скарыны; тваё пругкае веснавое голле-заклік загартоўвала волю Кастуся Каліноўскага; твая клапатлівая страфа выпраўляла ў дарогу верш-Музу Цёткі, паіла і наталяла чысцінёй крыніцу [illegible]іі Максіма Багдановіча, аберагала раскацісты радо[illegible]ыкі Уладзімі[illegible]араткевіча. Гэта ты, родная, даносіш да нашага [illegible]умуслыху казкі, легенды, паданні, заклікаеш да беражлівасці жыццё-прыроду».

## ТРЫ ПЕСНІ

З народнага

*Памяці бабулі Алены АКОЛАВАЙ*

1

Як з-пад каменя ды з-пад белага
Сярод дзён-былін, часу смелага,
Выцякаў ручай, сын вады лясной,
Што бруілася пад зямлёй вясной.
Падрастаў. Цурчаў. Разрываў дзірван
Той сакол-ручай, сінявокі Ян.
Звонка ў засень дрэў бег разбуджана.
І сустрэў сваю рэчку суджану...

Морач хвалямі абняла ручай,
Прытулілася да струмень-пляча,
Паліліся ўдвух праз далы-бары,
Абвянчаныя на язмін-зары.

Вось і песня ўся... цёмнай ноч была,
Калі я ў чаўне праз віры плыла.
На вясле—вясло. Ля шчакі — шчака.
У руцэ — рука...
Ля вачэй — вада
Глыбіню вякоў ценьмі мерала.
Свайму любаму Морач верыла...
Як з-пад каменя ды з-пад белага...

2

Рассыпаны мак-Задзіяк,
Расцеш каля плоту здзічэла.
І сцеблі сутуліш, дзівак,
Але зацвітаеш, як смала.

Табе, нібы сходна была,
Свой цень уступіла разора.
Тут пацеркі ўчора знайшла
Малода ад ліпеньскіх зораў.

Нанізаны кожны прамень
Крышталь да крышталю... зіхотка.
І дзівіцца ў сонечны дзень
Малода на тую знаходку.

Рассыпаны мак-Задзіяк,
Пялёсткаў зямная раскоша,
Скажы, заварожаны, як
Адолеў ты чырвані ношу,
Расцеш над густой лебядой?..

Зноў полымя кветак шугае.
Казак вечаровай хадой
Малоду ў даліне шукае...
Рассыпаны мак-Задзіяк...

3

А ўсе хмары ды да пары
Перад ліўнем грозным.
Толькі нашы думкі-мары,
Мой каханы, розны.

Ой пайду я ў луг зялёны да сястры-каліны.
І пярсцёнак твой дароны тром дарогам кіну.
Адап'ю расы з азерца і слязе дам волю.
Хай наслухаецца сэрца пра любоў-нядолю,
Каб увосень ягад горкіх не сарваць нікому,
Каб святлей, чым летам зоры, быў мой шлях дадому.

А ўсе хмары ды да пары
Перад ліўнем грозным.
Толькі нашы думкі-мары,
Мой, каханы, розны.
Ой чаму, скажы, каліна, твая сумна песня.
І каго, скажы, павінна, я сустрэць прадвеснем.
Прылятайце гусі-крылы да ракі Случанкі.
Там лугі вартуе мілы, нарачоны Янка.
Будзем разам голле-квецень берагчы ад згубы.
Навальнічны будзе вецер нам за свата, любы.
А ўсе хмары ды да пары...

## ФАЛЬКЛОРНЫ ВЯНОК САНЕТАЎ

Паводле мясцовай былі

1

— Дагарае вуголлем лучына.
Засынаюць вятры-чаўнакі.
Чым прынаджана сэрца хлапчыны,
Што ў малоду ўлюбёны такі!!

Расплятаюцца русыя косы.
Гардавіца ўзыходзіць ля град.
Топча, студзіць ой ножанькі босы
Чарнабровы казак-ненагляд.

Расчыняюцца цені-вароты.
Ля іх коннік спыняецца ўпотай.
На вячорках спяваюць жанкі.
Май пялёсткі ссыпае ў далоні.
Маладзік прыхарошвае скроні.
Вечар сіні плыве да ракі.

2

Вецер сіні плыве да ракі.
На даліне высокая студня.
З яе чэрпаюць [illegible]яць вякі...
І сцяжына да [illegible]чы бязлюдна.

Камень белы ляжыць ля вады.
Кладка мошчана, бераг пясчаны.
Нібы стрэлы, прамыя сляды,
Што прыводзяць Яніну да Яна.

Словы шчырыя слых беражэ.
А спатканне — даўжэй, даражэй.
І на зоры глядзяць аблачыны.
І так светла душы ля душы.
І замоўлена песня ў цішы:
«Першы раз знае любасць дзяўчына...»

3

Першы раз знае любасць дзяўчына.
Першы раз вочы блізка ля воч.
І як церам, стаіць за плячыма
У чаромсе расквечанай ноч.

Колькі сноў неразгаданых будзе
Пра той доўгі, бязгрэшны начлег.
На світанні дарогу разбудзіць
Казачэнькі даверлівы смех.

Конь буланы памкне за альтанку.
І звязе ад каханкі каханка.
І заплачуць расой светлякі.
І вясна, каб той шлях не сурочыць,
Пазірне ў твар расстання сірочы.
Першы раз яе смутак такі.

4

Першы раз яе смутак такі.
А на гуслях надорваны струны.
І, як серп, выпадае з рукі
Ліст пісьма: «Добры дзень, казак юны!

Весялосці маёй не чуваць.
Колькі дзён без цябе адбываю.
Ля вакон прывыкаю стаяць.
Позна ўвосень цябе я чакаю.
Прыязджай, мой саколе, хутчэй!»
І абдымкі надзей гарачэй.
І так сумна Яніне без Яна.
І сватоў прычакалі бацькі.
І парады даюць сваякі —
А вяселле да шлюбу прыбрана.

5

А вяселле да шлюбу прыбрана.
Казака-ненагляда ж няма.
І завея ўсхадзілася рана.
І лютуе, як нелюдзь, зіма.

Лёд на Случы глыбокі, трывалы.
Аніводнай сцяжыны нідзе.
Пан жаніх напаўрослы, няўдалы
Да нявесты паспешна ідзе.

Дзень-мароз яго стрэнуў шчыпотай.
І высокаю гурбай ля плоту.
І шыпшынавы куст на двар[illegible]
Так ударыў балюча па твар[illegible]
Каб Янінаю ён не ўладарыў...
А гасцей, хоць для войска бяры.

6

А гасцей, хоць для войска бяры:
За сталы пазаселі цясовы.
І таўкуць, нібы мак камары,
Перасмечаны жарты і словы.

І запевы звіняць, нібы шкло.
Белы іней, як россып, здрабнелы.
Казака сустракае сяло
Развітаннем трывожным і смелым.

Ціха ў шыбіну стукне рука.
Лёгкі вэлюм адмовіць шчака.
І прыпомніць Яніна пра Яна:
Рукі сцісне свае ў кулакі.
Стрымгалоў пабяжыць да ракі,
Ды разлукай сваёй пакарана,

7

Ды разлукай сваёй пакарана,
Адшукае ў пасцелі снягоў
Вечны сон ля замерзлага Яна.
І халодны калядны агонь
Пералье ў свае вусны гарача.
Разгудуцца вятры-правады
Ад жальбы і дзявочага плачу.
Загалосіць луг-гай ля вады.
Гронкі ўскрыкнуць чырвонай каліны.
Згоркне ягадай шчасце Яніны.
Конь буланы здзічэе ў бары...
Тую быль мне ляснік пераказваў,
Калі папараць-кветку паказваў:
«Смерць Яніна знайшла на зары».

8

Смерць Яніна знайшла на зары
Побач з любым пад рослай ракітай.
Шэптам ласкавым ён гаварыў,
Што каханнем яны не забыты.

Плынь змялела за тыя часы.
Патануў у вірах боль глыбокі.
Тут баяцца дзяўчаты красы
І глядзяць на хлапцоў толькі збоку.

Бераг кручы ўзялі аберуч.
І празвалі раку людзі Случ.
Ей цячы па паданнях слядах.
І не збочваць нідзе ні на мілю,
І гукаць на ўвесь свет: «Мой жа мілы!
Колькі згадак размыла вада!»

9

«Колькі згадак размыла вада»,—
Быль ляснік паўтараў, як малітву.
Варажыў, на далонях гадаў,
Частаваў мае вусны малінай.

Ружа-кветка цвіла на шчацэ.
Лодка хістка кранала прадонне.
Я не ведала там, на рацэ,
Што хлапец гэты станецца доляй.

О кахання сцягі-міражы!
Раскажы, лёс, пра ўсё раскажы!
Пагукай, нібы рэха, гады.
Белым камнем пазнач гэты дзень.
Прытулі маладосць да грудзей.
«Колькі жыццяў згубіла бяда».

10

«Колькі жыццяў згубіла бяда»,—
Сказ закончыў ляснік сумным словам.
Ноч ступала па летніх брадах.
Яе крок быў нязведаны новы.
Нечаканай маланкі крыссё
Затуліла зямлю. Змоўклі мары.
«Ты запомні, запомні пра ўсё! —
Біўся гром аб высокія хмары,—
Пазірні, як каханне гарыць.
Але як яго цяжка тушыць».
Дождж не ведаў ратунку, збавення...
Мы сушылі намоклы агонь.
Сагравалі далоньмі далонь...
Вечнасць выкрала ночы імгненне.

11

Вечнасць выкрала ночы імгненне.
Ручаі абмінулі дзірван.
Развіталіся з зоркамі цені.
Зніклі ў песні Яніна і Ян.

Толькі два валуны, як блізняты.
Каля Случы вякоў пяць маўчаць,
Нібы гэта яны вінаваты,
Што жывым трэба зведаць адчай.

Нібы слова не чулі: «Каханы».
Не залечвалі сэрцайка раны.
Сум сапраўдны баіцца жальбы.
Але зноў просіць піць птушка каня.
І дачушкам даюць імя Яня.
Кружаць парамі зноў галубы.

12

Кружаць парамі зноў галубы.
І ляснік ласянят даглядае.
Ён юнацтвам маім шчырым быў.
І цяпер яшчэ ў госці чакае.
Я прыйду ў лес сунічны, прыйду.
Каля хаткі бабровай спынюся.
І дзве ягады спелых знайду.
Да цябе, мой Мікола, вярнуся.
Бо рака не цячэ на гару.
Бо і ліўні не тушаць зару.
Бо цябе, родны, нельга забыць.
Бо балоцейка морам не стане.
Бо жыццё нараджае каханне.
«Трэба змоладу верна любіць...

13

Трэба змоладу верна любіць»,—
Мне бабуля ў дзяцінстве казала.
Азярынай бы час той разліць.
Сцежку ўбачыць, што лёс мой звязала
І дарогай шырокай лягла.
І не знае ў душы паралеляў.
Як даўно каля Случы была,
Як даўно я не рвала лілеяў!
— Пагукай мяне! Дзе ты, ляснік!
Ды святлее, маўчыць маладзік.
І навокал такое зняменне.
Будзе белым каліна цвісці.
Будзе сталасць да скроняў ісці.
І вясну сустракаць, як здзіўленне.

14

І вясну сустракаць, як здзіўленне.
Будзе кожненькі зелень-лісток.
Песня, колькі ў цябе пакаленняў!!
Дзе бруіцца твой славы выток!!
Дзе заўчора з вячора гавораць,
Дзе касцёр пагарае, гарыць,
Дзе прыпеўкі гасцям хорам дораць.
Дзе ў зязюленькі крыльца баліць!!
Вёска-край, нарачоны радзімай,
Ты бясконца таемны і дзіўны...
Пакуль мамы пяюць калыханку,
І вітаюць буслы новы дзень,
Ты, каханне, ідзі да людзей
Ад начы да начы і да ранку.

15

Дагарае вуголлем лучына.
Вечар сіні плыве да ракі.
Першы раз знае любасць дзяўчына.
Першы раз яе смутак такі.

А вяселле да шлюбу прыбрана.
А гасцей, хоць для войска бяры...
Ды разлукай сваёй пакарана,
Смерць Яніна знайшла на зары...

Колькі згадак размыла вада.
Колькі жыццяў згубіла бяда.
Вечнасць выкрала ночы імгненне.
Кружаць парамі зноў галубы.
Трэба змоладу верна любіць.
І вясну сустракаць, як здзіўленне.

**У МАСКВЕ АДКРЫТЫ ДОМ-МУЗЕЙ МАРЫІ ЯРМОЛАВАЙ**

# НА СПАТКАННЕ СА СЛАВУТАЙ АКТРЫСАЙ

У Маскве адкрыўся Дом-музей вялікай рускай актрысы Марыі Ярмолавай (1853—1928). Ён размешчаны ў старым асабняку на Цвярскім бульвары, у цэнтры сталіцы. Асабняк закладзены ў 1773 годзе, неаднаразова надбудоўваўся, перажыў пажар 1812 года ў час нашэсця Напалеона. Цяпер ён адноўлены і мае выгляд, як у 1889 годзе, калі муж Ярмолавай, вядомы адвакат Мікалай Шубінскі, набыў яго для сваёй сям'і. Сорак год, аж да сваёй смерці ў 1928 годзе, Ярмолава жыла тут, з гэтымі сценамі звязаны самыя плённыя гады яе творчасці ў славутым Малым тэатры (1870—1921). А сам Цвярскі бульвар, звязаны з імёнамі Пушкіна і Лермантава, Герцэна і Талстога, уключыў у сябе сёння і дом актрысы, які заўсёды быў цэнтрам прыцягнення лепшых мастацкіх сіл Расіі. Тут гасцiў Чэхаў, тут спявалі Шаляпін і Собінаў, тут мастак Валянцін Сяроў у Белай зале напісаў свой шэдэўр — партрэт «геаіічнай сімфоніі рускай сцэны» — Марыі Ярмолавай...

Дом-музей спалучае ў сабе мемарыяльны і гісторыка-тэатральны характар: парадная Белая зала для канцэртаў і творчых вечароў, дзе раней наладжвалася навагодняя ёлка, зімні сад, Жоўтая гасцiная, у ёй паказаны творчы шлях Ярмолавай, дзе па-ранейшаму адлічвае бег часу старадаўні гадзіннік... Святая-святых — кабінет актрысы са славутым бэзавым шклом: рабочы стол, кніжная шафа з літаратурай на многіх мовах, тут нараджаліся легендарныя вобразы ў п'есах Шэкспіра і Лопэ дэ Вэга, Гётэ і Астроўскага... У кабінеце ўзноўлена атмасфера па-сапраўднаму навуковай і натхнёнай работы Ярмолавай над вобразам, можа быць, самым славутым — Жанны д'Арк у драме Шылера. Гэтую ролю актрыса выконвала з вялікім поспехам, пачынаючы з бенефісу 1884 года і да 1902 года.

Мы бачым кнігі, скульптуру, гравюры, прысвечаныя любімай ролі — Жанны д'Арк, афішы і рэдкія фота спектакля Малога тэатра, касцюм Ярмолавай, рукапісны тэкст ролі з паметкамі, меч XVI стагоддзя, паднесены на развітальным спектаклі 1902 года.

У наступнай зале прадстаўлена Ярмолава як грамадскі дзеяч, яе канцэртныя выступленні на карысць бедных студэнтаў і састарэлых акцёраў. Галерэя сяброў і сапраўныя актрысы: Максім Горкі і Вера Камісаржэўская, Марыя Савіна і Глікерыя Фядотава, наследніца Ярмолавай — славутая трагічная актрыса Аліса Коанен, усіх не пералічыць. Але сярод самых верных і дарагіх сяброў Ярмолавай — Аляксей Бахрушын. Таму што і сам Дом-музей Ярмолавай — філіял Дзяржаўнага цэнтральнага тэатральнага музея імя А. Бахрушына. Артыстка была членам апякунскага савета вялікага калекцыянера тэатральнай даўніны Бахрушына, яна садзейнічала яму ў перадачы прыватнага збору ў валоданне Расійскай Акадэміі навук, а пасля рэвалюцыі 1917 года — Народнага Камісарыята асветы.

Наступная зала прысвечана творчасці Ярмолавай у 1917—1921 гадах, калі яна выступала ўжо толькі ў трох спектаклях: «Пасадніку» А. Талстога, «Рычардзе III» Шэкспіра і «Дзекабрысце» П. Гнедзіча. Рэдкія афішы, дакументы, фатаграфіі, вянкі, адрасы, стужкі — сведчанне лікавання Масквы ў дні святкавання 50-годдзя сцэнічнай дзейнасці Марыі Ярмолавай 2 мая 1920 года, калі ў глядзельнай зале прысутнічаў У. І. Ленін. На стэндзе — выпіска з пратакола пасяджэння Саўнаркома ад 20 лютага 1920 года «Аб наданні артыстцы Ярмолавай у дзень юбілею звання першай народнай артысткі Расійскай Рэспублікі» з подпісамі У. І. Леніна і А. Луначарскага.

А вось сцяг «Слава вялікай Ярмолавай» быццам нясе ў сабе буру захаплення ўрачыстага спектакля ў Малым тэатры і асвятляе кадры старой кінахронікі: Марыя Мікалаеўна на балконе гэтага дома, якую вітаюць дэлегацыі тэатраў Масквы, студэнцтва. У вітрыне словы з прывітання Маскоўскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў: «У зале Малога тэатра пралетарыят атрымаў ад старога свету ў спадчыну лепшае, што ў ім было, — мастацтва, і сярод гэтага мастацтва лепшую прыгажосць — М. Ярмолаву».

Падымаемся па лесвіцы, і мы — у грымпрыбіральні Ярмолавай, перанесенай з Малога тэатра, дзе нібы чуюцца словы прывітання вялікага рэжысёра Канстанціна Станіслаўскага: «Вы самы светлы ўспамін нашай маладосці. Вы — кумір падлеткаў, першае каханне юнакоў. Хто не быў закаханы ў Марыю Мікалаеўну і ў вобразы, ёю створаныя? Вялікая падзяка за гэтыя парывы маладога чыстага захаплення, якія вы абуджаеце...»

Пакінуты парадныя пакоі, і вось цёплыя пакоі верхняга паверха. У сталовай за гасцінным сталом чаявалі з актрысай Чэхаў і Шаляпін, у суседняй Зялёнай гасцiнай абмяркоўваліся спектаклі Мастацкага тэатра, імправізавалі і музіцыравалі, а далей — кабінет-спальня Марыі Мікалаеўны апошніх васемнаццаці год яе жыцця.

[illegible]э перш чым пакінуць старадаўні дом, п[illegible] зімні сад пройдзем да дыярамы Яфіма Дзешалыта — гэта карціна старой Масквы 1870-х гадоў. У час дэбюту Ярмолавай на сцэне Малога тэатра. У цэнтры — Вялікі і Малы тэатры, на падмостках якіх выступала актрыса. Мы знойдзем і вулачку, якая носіць цяпер імя Ярмолавай. Тут яна нарадзілася ў паўпадв[illegible]ў сям'і суфлёра Малога тэатра. Усе чле-н[illegible]тай сям'і служылі на тэатры, як тады гаварылі, пачынаючы з дзеда, прыгоннага скрыпача і акцёра. Мы ўбачым акварэль вядомага мастака Леаніда Пастэрнака, на якой паказана дзяўчынка Маша ў суфлёрскай будцы разам з бацькам; убачым рэдкія фатаграфіі пакаленняў сям'і Ярмолавай, а таксама вялікіх карыфеяў Малой сцэны.

Дом Марыі Ярмолавай прыцягвае да сябе масквічоў і гасцей горада, як і раней, у ім утульнасць і цішыня.

**Вадзім КІСЯЛЁЎ,**
**тэатральны крытык.**

**НЕВЯДОМАЕ АПАВЯДАННЕ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ**

# ПРА ПАЛЕССЕ І ЯГО ЖЫХАРОЎ

У час працы з польскімі перыядычнымі выданнямі другой паловы XIX стагоддзя я натрапіў на апавяданне Элізы Ажэшкі, якое доўгі час заставалася невядомым беларускаму літаратуразнаўству. Яно называецца «Успаміны з Пінскага павета». У рэдактарскай заўвазе адзначаецца, што апавяданне прысвечана апісанню Палесся, (Кобрынскага і часткі Пінскага і Брэсцкага паветаў).

Як вядома, не толькі з Гроднам і яго ваколіцамі, але і з Палессем, у прыватнасці, Драгічыншчынай было звязана жыццё пісьменніцы. Ажэшка пасля шлюбу (1858 год) пераехала разам з мужам у маёнтак Людвінова (Драгічыншчына), у якім жыла, пакуль улады не канфіскавалі яго (1864 год) з-за дачынення гаспадароў да паўстання. Пасля гэтага пісьменніца пакідае людвіноўскую сядзібу і вяртаецца ў родныя мясціны—Мілкаўшчыну.

Неўзабаве яна напісала «Успаміны з Пінскага павета», якія характарызуюцца яскравай, вобразнай мовай і чытаюцца з вялікай цікавасцю. Твор гэты быў надрукаваны ў варшаўскім штотыднёвіку «Тыгоднік ілюстраваны» ў 1867 годзе. У апавяданні аўтар расказвае пра прыроду і клімат упамянутай часткі[illegible]арусі, пра яе жыхароў.

Калі пачынаеш яго чытаць, адразу заўважаецца нейкая настроенасць на смутак. І, магчыма, гэта тлумачыцца тым, што з Піншчынай (у шыро[illegible]сэнсе слова) у Ажэш[illegible]ылі звязаны не толькі радасныя, але і сумныя ўспаміны (маецца на ўвазе няўдача паўстання 1863—1864 гадоў). Непасрэдная сведка рэвалюцыйных выступленняў народа, яна не толькі спачувала паўстанцам, але і сама, чым магла, ім дапамагала.

Для перадачы ўласнага настрою аўтар надзяляе прыроду змрочнымі фарбамі. У яе апісанні Піншчына падаецца як смутны край без празрыстых вод, роўны і манатонны, быццам пастаянна затуманены, і ёй нават здаецца, што тут лясы больш тужліва шумяць, а само неба выглядае больш бледна, чым дзесьці. Разам з тым Ажэшка прызнае, што тутэйшыя мясціны не пазбаўлены чароўнасці, прыгажосці. «І ўсё ж хапае прыгажосці ў гэтым смутку, у гэтай як бы соннай задуменнасці прыроды»,—заўважае яна.

Ажэшка бачыць адметнасць Палесся, лічыць, што навакольнае асяроддзе аказала пэўны ўплыў не толькі на характар, быт, тэмперамент палешукоў, але нават і на іх духоўнае жыццё.

Спыняючы ўвагу чытача на матывах народных песень жыхароў Палесся, яна падкрэслівае: «Сум і енклівая туга з'яўляюцца агульнай рысай літоўскіх (г. зн. беларускіх) народных песень, але тут больш чым дзе-небудзь яны разліваюцца самымі тужлівымі тонамі. Як бы енчучы і па-пакутніцку скардзячыся, з працяглым і маркотным спевам сяляне ідуць і на працу, і на вяселле, і на гулянку ў карчму, і на дажынкі». Гэтым самым аўтар ставіць пад сумненне існаванне ў беларусаў вясёлых і жартоўных песень, яўна перабольшвае значэнне сумных і аднастайных матываў у песеннай творчасці як жыхароў Палесся, так і беларусаў наогул.

Хоць Ажэшка ў гэтым невялікім апавяданні паказала сябе добрым майстрам апісання прыроды, здольным даць сваю, самастойную ацэнку той ці іншай з'яве навакольнай рэчаіснасці, аднак яе характарыстыка мясцовых жыхароў, іх культуры аказалася павярхоўнай і аднабаковай. Тым не менш апавяданне Э. Ажэшкі «Успаміны з Пінскага павета» пашырае нашы ўяўленне аб месцы і значэнні беларускай тэматыкі ў творчасці пісьменніцы.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**Прыкметнай з'явай культурнага жыцця сталіцы прайшоўшага месяца стала персанальная выстаўка заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, вядомага графіка Арлена Кашкурэвіча. Яна — своеасаблівая творчая справаздача аўтара больш чым за два дзесяцігоддзі працы.**

**Адным з лепшых беларускіх мастакоў кнігі называюць сёння Арлена Кашкурэвіча. І ў тым, што беларуская кніжная графіка сёння прызнана не толькі ў нашай краіне, а і за яе межамі,— немалая заслуга А. Кашкурэвіча. Дастаткова прыгадаць яго ілюстрацыі хаця б да некаторых твораў: «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, «Карнікі» А. Адамовіча, «Фауст» І. Гётэ, «Пайсці і не вярнуцца» В. Быкава. Па сутнасці гэта не ілюстрацыі тэкставага матэрыялу ў традыцыйным разуменні, а хутчэй кампазіцыі-вобразы, якія патрабуюць роздуму над лёсам чалавека і чалавецтва.**

**Шырока вядомая сёння яго серыя графічных лістоў «Партызаны». Карыстаючыся здольнасцю чыста графічнымі сродкамі перадаць у межах аднаго вобраза гістарычнае гучанне часу, А. Кашкурэвіч стварыў работу вялікай эмацыянальнай сілы: кожны асобны афорт —гэта шчымлівы расказ пра трывожныя будні чалавека з гадоў Вялікай Айчыннай. Праз знешні рад зусім негераічных падзей («На шчасце, на гора», «Развітанне», «Смага», «Партызанская маці»), праз унутранае напружанне і шматслоўнасць сэнсавай, філасофскай іх нагрузкі выяўлена, высвечана вечнае ў чалавеку, у жыцці яго і спадзяваннях на шчасце. Акрамя ілюстрацый да кніг, на выстаўцы былі прадстаўлены таксама і серыі станковых работ мастака.**

**На выстаўцы адбыліся сустрэчы А. Кашкурэвіча з гледачамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: А. КАШКУРЭВІЧ. «Партрэт сына»; ілюстрацыя да аповесці В. Быкава «Пайсці і не вярнуцца»; «Бегімай».**

**Фота К. ШАЛЯСТОВІЧА.**







СПАДЧЫНА

# ПАКІНУЛІ СТАРАЖЫТНЫЯ МАЙСТРЫ

Беларусь — краіна старажытнай культуры. Тысячы археалагічных помнікаў каменнага веку і эпохі бронзы, жалезнага веку і сярэдневякоўя, якія дбайна захоўваюцца, раскіданы па ўсёй яе тэрыторыі. Аднак больш за ўсё сустракаецца помнікаў эпохі Кіеўскай Русі—дзяржавы, якая была радзімай трох вялікіх народаўбратоў: рускага, украінскага і беларускага. У рэспубліцы вядуцца шырокія археалагічныя даследаванні, вынікам якіх з'явіліся экспазіцыі музеяў і выставак, шматлікія манаграфіі, што расказваюць аб жыцці нашых продкаў.

У час археалагічных раскопак вельмі часта сустракаюцца рэшткі глінянага посуду. Знешне простыя і непрыкметныя, яны ўяўляюць значную цікавасць для археолага.

Майстэрства абпалу глінянага посуду бярэ вытокі з часоў неаліту (новага каменнага веку), калі чалавек упершыню навучыўся выкарыстоўваць якасці гліны, што пабывала ў агні. Ад простых, лепленых рукамі пасудзін да сфармаваных на ганчарным крузе вырабаў, ад дапаможнага хатняга промыслу да даволі буйной рамеснай вытворчасці—вось шлях, па якому ішло развіццё ганчарства. Трываласць вырабаў з абпаленай гліны, іх шырокае ўжыванне ў мінулым робяць гэтую катэгорыю рэчаў найбольш масавай знаходкай у час раскопак старажытных паселішчаў, пахаванняў. Пры гэтым, дзякуючы культавай ролі пахавальнай керамікі, цэлыя вырабы сустракаюцца тут значна часцей.

Да IX стагоддзя на землях старажытнай Русі ўжывалі ручны спосаб лепкі пасудзін. Наступная ступень—выраб посуду на падстаўцы, якая павольна рухалася. Да канца X—пачатку XI стагоддзяў посуд, сфармаваны з дапамогай ганчарнага круга, усюды выцесніў вылеплены ад рукі. Значна палепшылася якасць, павялічыўся выпуск прадукцыі. Рост попыту на ганчарныя вырабы абумовіў бурнае развіццё рамяства, дазволіў яму дасягнуць поспехаў. Посуд стаў трывалы і лёгкі.

Шырокае ўжыванне ў старажытнай Русі глінянага посуду ў X—XIII стагоддзях засведчана не толькі археалагічнымі, але і летапіснымі звесткамі. Ведала насельніцтва Кіеўскай дзяржавы драўляны, шкляны і металічны посуд. Але не яны былі асноўнымі. Драўляны посуд—нетрывалы, баіцца вільгаці, у ім нельга зварыць ежу. Значна зручней посуд металічны: трываласць, вогне- і водаўстойлівасць уласцівы вырабам з медзі і бронзы. Але высокі кошт рабіў іх недасягальнымі для шырокіх мас насельніцтва.

Старажытнарускія майстры валодалі ўсімі асноўнымі прыёмамі вытворчасці глінянага посуду. Асартымент быў даволі разнастайны: гаршкі (гарнцы), міскі, латкі, крынкі, каўшы і г. д. Майстры-ганчары працавалі ў гарадах і вёсках, збываючы сваю прадукцыю ў навакольнай акрузе і на гарадскіх кірмашах. Трэба адзначыць, што прынцыповых адрозненняў паміж вырабамі гарадскіх і вясковых майстроў практычна не было.

Якасць ганчарнага посуду ў многім залежыць ад яго абпалу. Мясцовыя майстры добра валодалі гэтай складанай тэхналогіяй. Гарадскія рамеснікі часцей ужывалі спецыяльныя печы-горны. Вясковыя ж майстры, як правіла, абыходзіліся звычайнымі печкамі ў жылых памяшканнях. Майстар ведаў, як трэба паліць печ, колькі дроў закласці, як і колькі загрузіць посуду. Дзякуючы гэтаму, посуд атрымліваўся высокай якасці.

У археалагічным аддзеле гістарычнага музея Белдзяржуніверсітэта захоўваецца значная калекцыя (18 штук) старажытнарускіх пасудзін, знойдзеных у час раскопак курганоў у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці. Усе яны адносяцца да найбольш распаўсюджанага на Русі тыпу посуду—гаршкоў. Яны выраблены на лёгкім ручным ганчарным крузе з добра адмучанай гліны, часам з дабаўленнем буйнога пяску альбо жвіру. Форма пасудзін—конуса- і шарападобная—была шырока распаўсюджана на Русі. На некаторых аздабленне ў выглядзе лінейнага і хвалістага арнаменту, што надае ім стромкасць і лёгкасць.

На донцах сямі гаршкоў ёсць кляймо—акружнасці, крыжы і іх камбінацыі. Такія знакі, з'явіўшыся ў часы паганства, мелі характар рэлігійных сімвалаў, агульных на славянскіх землях. Са з'яўленнем ганчарнага круга яны былі перанесены на кераміку і сталі знакамі майстроў. Кляймо на посудзе дазваляе адказаць на многія пытанні, у тым ліку вызначыць тэрыторыю, якую абслугоўваў майстар. У калекцыі музея БДУ ёсць два гаршкі з могільнікаў XI стагоддзя ля вёсак Мадора і Юдзічы, размешчаных на значнай адлегласці адна ад другой—на розных берагах Дняпра. На іх донцах змешчана аднолькавае кляймо. Пры гэтым супалі не толькі памеры і форма, але і дэфекты штампа. Відавочна, што гэтыя пасудзіны былі зроблены ў адной майстэрні. Аб тым жа сведчыць і яшчэ адна асаблівасць тэхналогіі іх вырабу: пасля заканчэння фармоўкі і спынення круга майстар яшчэ раз разгладзіў пальцамі, ад донца да венчыка, унутраную паверхню вырабаў. Гэтыя адбіткі пальцаў ганчара, яго своеасаблівыя «аўтографы» і данесла да нас з глыбіні стагоддзяў гліна—просты і ў той жа час дзівосны матэрыял.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ.**



**НА ЗДЫМКУ:** калекцыя «курганнай» керамікі з музея Белдзяржуніверсітэта.

**Фота аўтара.**

## РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ



# СТУДЗЕНЬСКАЯ ЦІШЫНЯ

У народзе кажуць: хочаш спакою, пайдзі ў лес. У гэтым я пераканаўся.

Іду па прасецы. На ёй яшчэ не крануты снег, што выпаў уноччу. Навокал бела-бела, спакой, цішыня, аж у вушах звініць. Галінкі ялін прыгнуліся ад снегу, утвараюць казачныя зялёна-белыя высачэзныя стагі і нізготкія стажкі. З-пад іх на прасеку то тут, то там вядуць ланцужкі слядоў лісіцы, часцей зайца.

У яловым гушчары прытулілася цемра. У яе заглянуць хочацца, але неяк трывожна: можа, там спачывае воўк ці дзік-шатун. У такім месцы сэрца займаецца ад таямнічай цішыні, і ты міжволі паглядаеш у бакі, каб што якое не выскачыла знянацку.

Нагледзіш разгалістую тоўстую яліну, зойдзеш пад яе шаты, прыхінешся да шурпатае кары, і спакой авалодае табою. Стаіш і чакаеш: а раптам штосьці цікавае з'явіцца?

І як у той казцы: з голля суседняй яліны пасыпаўся снег. «Каму ж там не сядзіцца?»—падумаў і пачаў угледацца. Пад яліну скокнула куніца, прыгажуня нашых лясоў. Села, натапырыла сваё цёмна-каштанавае футра, а на шыі белая манішка. Потым куніца пакачалася ў снезе, нібы прыняла снегавую ванну, і імкліва пабегла па дрэве ўверх.

Іду далей. Ельнік радзее, а гонкія хвоіны-веліканы ціхутка шапочуць у вышыні голлем. Дзесьці час ад часу танюсенька заскрыпіць галінка аб галінку, што яшчэ больш надае лесу таямнічасці.

Хмараў няма. Ноч спяшаецца, і таму прыцемак выпаўзае з гушчару. Выходжу на дарогу. Неба выядрылася, мароз шчыпае пальцы, шчокі, нос, іней садзіцца на каўнер. А ў вышыні над Нёманам ужо гараць першыя прыгожыя зоркі. Яны буйныя, зіхатлівыя. Потым адна, нібы яе хто піхнуў, ляціць уніз, пакідаючы доўгі, яркі хвост. І знікае, як бы яе і не было.

Уваходзіш у вёску. Над хатамі сінімі слупочкамі роўненька ўзнімаецца дым. «Паляць стаякі на ноч», — прабяжыць думка, і спяшаешся ў цёплую хату, што нават забываеш шчыльна зачыніць за сабою дзверы.

— Ну і студзень! — пераведшы дыханне, прамовіш.

**Я. КРАМКО.**

# У ПАМЯЦІ НАРОДА

Адбыўся вечар, прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння Уладзіславы Луцэвіч, заслужанага дзеяча культуры БССР, жонкі і паплечніцы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, якая на працягу 16 гадоў была дырэктарам літаратурнага музея песняра. Ушанаваць памяць У. Луцэвіч на ўрачысты вечар прыйшлі вядомыя дзеячы культуры, літаратуры, мастацтва.

Народны мастак СССР Міхаіл Савіцкі да гэтай падзеі напісаў карціну «Першая сустрэча Уладзіславы Францаўны і Янкі Купалы». Народны пісьменнік Янка Брыль нагадаў пра той час, калі ён быў адным з першых навуковых супрацоўнікаў музея, расказаў, што дала яму ў жыцці сумесная праца з Уладзіславай Францаўнай. Народная артыстка БССР Стафанія Станюта падзялілася ўспамінамі аб тым часе, калі У. Луцэвіч была шчырым дарадцам артыстаў тэатра імя Янкі Купалы ў пастаноўцы на сцэне купалаўскіх твораў.

Паэты Сяргей Грахоўскі і Пятро Прыходзька аддалі даніну пашаны і любові незабыўнай цёці Уладзі сваімі вершамі і ўспамінамі. Дырэктар музея Янкі Купалы Жанна Дапкюнас нагадала старонкі жыцця і дзейнасці жонкі паэта. Квартэт «Купалінка» выканаў беларускія народныя песні, таму што песня, як і праца, заўсёды шчыра шанаваліся ў сям'і Янкі Купалы.

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ.**

## ЗАПРАШАЮЦЬ «ДАЎГЯЛЫ»...

Мы звыкліся з тым, што цырк — гэта абавязкова арэна, асляпляючыя пражэктары, аркестр недзе пад купалам і... часам немагчымасць набыць білет у касе. А вось на выступленні народнага цырка «Даўгялы» Палаца культуры Брэсцкага абласнога Савета прафсаюзаў прыходзяць усе жадаючыя, без абмежавання. І заўсёды застаюцца задаволенымі арыгінальнасцю і майстэрствам самадзейных артыстаў.

Кіруюць народным цыркам «Даўгялы» Сяргей і Наталля Калачовы, абодва спартсмены — акрабат і гімнастка. Іх патрабавальнасць, захопленасць, азарт, энергія і дапамагаюць трымаць адпаведны мастацкі ўзровень калектыву, які па праву носіць званне народнага. «Даўгялы»... Яшчэ ў мінулым стагоддзі на Брэстчыне з гарадка ў гарадок, з кірмаша на кірмаш пераязджаў славуты вандроўны цырк. Гісторыя пакінула нам імя яго дырэктара і артыста ў адной асобе. І вось праз дзесяцігоддзі зноў вандруюць «Даўгялы» па тых жа самых мясцінах, якія памятаюць славутага земляка...

**Ю. САВІН.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 44